У нумары: ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА — ПАЛКОЎНІК АБЕЛЬ РАСКАЗВАЕ — НАРОДНЫ КАЛЯНДАР


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 14 (527) Год XI 3 КРАСАВІКА 1966 г. Цана 60 гр.


## Інтэрв'ю з новым старшынёй ГП БГКТ



**ВІНЦУК СКЛУБОЎСКІ — новы старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Паходзіць з Віленшчыны — з Ашмянскага павета. У 1939 годзе закончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Да вайны дзейнічаў у беларускім руху: у Беларускім студэнцкім саюзе, быў рэдактарам беларускай газеты «Наша Воля», быў членам Галоўнай управы ТБШ і старшынёю цэнтральнага гуртка ТБШ у Вільні. У час акупацыі быў вывезены на работы ў Нямеччыну. Пасля вызвалення пачаў працу ў судаводстве. Зараз з'яўляецца ваяводскім суддзёю ў Беластоку.**

# АД ЧАГО ПАЧНЕЦЕ?

*— Як Вы ацэньваеце дзесяцігадовую дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства?*

— Адыграла яно, несумненна, карысную ролю ў развіцці нацыянальнай культуры беларускага насельніцтва на Беласточчыне, у яго збліжэнні з пражываючым супольна польскім насельніцтвам, ва ўзмацненні іх супрацоўніцтва і ўзаемнага зразумення, у спапулярызаванні дасягненняў народаў СССР, а асабліва БССР. Яго грамадская дзейнасць спрыяла больш шырокай мабілізацыі беларускага насельніцтва для справы сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. І ў гэтым вялікая заслуга і сэнс нашага Таварыства.

*— Сябра Склубоўскі, якое Вашае ўражанне аб актыве БГКТ?*

—Надзвычай добрае ўражанне. З такім актывам можна шмат чаго карыснага і талковага зрабіць. Я сказаў — можна. І таму хачу на пытанне адказаць шырэй. А менавіта: ва ўмовах такой арганізацыі, як БГКТ, якая мае свой апарат працаўнікоў, вынікі актывісцкай дзейнасці залежаць у значнай меры ад гэтага апарата; ад таго, наколькі ён здольны мабілізаваць дзейнасць актыву. І так, справа не ў актыве, яго ў нас многа, а ў належнай працы платнага апарата працаўнікоў БГКТ, якія павінны пакіраваць працай актыву. Перад усім, трэба звярнуць увагу на інструктараў — тых арганізацыйных, і тых артыстычных.

Думаю, што яго, інструктара, першая роля — гэта арганізаваць актыў, вучыцца супрацоўнічаць з ім. Калі не зробіць таго, застанецца ён, як той «адзін у полі (не) воін». І будзе так, як у Беластоцкім павеце, дзе ўвесь час мала гурткоў — інструктар, відаць, лічыць толькі на самога сябе...

*— Гурткі, гэта паказальнік дзейнасці БГКТ, яго тэрмометр?*

— Слушнае параўнанне, хаця некаторыя лічаць, што гурткі з'яўляюцца лішнім баластам у дзейнасці, і непатрэбныя яны. Гурток стварае магчымасці масавай, а найважнейшае, канкрэтнай дзейнасці БГКТ ва ўсіх галінах жыцця — дзейнасці не адной культурніцкай.

*— Чакае Вас, сябра Склубоўскі, шмат гаравітай працы. Ад чаго пачнеце?*

— Адказу далёка шукаць не прыходзіцца. Ён знаходзіцца ў выказванні членаў нашага Таварыства на сходах перад з'ездам, а асабліва — дэлегатаў у час з'езда. Пастановы з'езда, пажаданні дэлегатаў і ўсіх сяброў Таварыства будуць дакладна разгледжаны і ў той ступені, у якой гэта магчыма, зрэалізаваны. А гэта і пакажа кірунак дзейнасці Таварыства.

*Гаварыў:*
*САКРАТ ЯНОВІЧ*



Родны краявід. Фота С. Грынявіцкі

## Пасяджэнне прэзідыума ГП БГКТ

19 сакавіка адбылося першае пасяджэнне новага прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прэзідыум абмеркаваў спосабы рэалізацыі пастаноў V-га з'езда БГКТ і ўсіх прынятых на ім прапаноў і пастулатаў.

Прэзідыум апрацаваў праблематыку пасяджэнняў прэзідыума ГП да канца гэтага года. Пастаноўлена 2 разы ў год праводзіць у аддзелах выезныя пасяджэнні прэзідыума ГП з удзелам членаў прэзідыума аддзела і прадстаўнікоў некаторых вясковых гурткоў.

На гэтым пасяджэнні былі падзелены абавязкі паміж членамі прэзідыума і прыдзелены абавязкі ўсім членам Галоўнага праўлення БГКТ. Датычаць яны перш за ўсё абслугі гурткоў і лектарскай працы. Прэзідыум зацвердзіў склад 3-ох камісій, а менавіта: камісіі асветы, прапаганды і культуры. (мх)

# Дробнае рамяства ў вёсцы

КАСТУСЬ ПАТЭЛЬСКІ

Часта ў друку публікуюцца артыкулы аб дробным рамястве. Некаторыя публіцысты, якія бліжэй знаёмыя з гэтай галіной народнай гаспадаркі, б'юць на «алярм», заклікаючы адпаведныя ўлады ратаваць дробнае рамяство і даюць свае рацэпты, як яго ратаваць. Іншыя публіцысты, якія з сітуацыяй у рамястве знаёмяцца ў зацішным кабінеце аддзела промыслу, гандлю, сітуацыю рамяства апісваюць у ружовых колерах.

Згоднасць у гэтых публіцыстаў бывае па большай частцы толькі ў адным, што пад назваю «рамеснік» яны разумеюць рамесніка, які патрэбны да направы тэлевізара, халадзільніка ці другой здабычы сучаснай тэхнікі.

Не пярэчу. Сёння, калі гэтая тэхніка трапляе і пад сялянскія стрэхі, адчуваецца патрэба і гэтых рамеснікаў, але направа тэлевізара адыходзіць на другі план там, дзе ўжо праблемаю робіцца падкуцце каня, рамонт плуга ці печы. Я, як жыхар вёскі і дробны рамеснік — каваль, у сваім артыкуле хачу закрануць сітуацыю ў дробным рамястве на вёсцы з асаблівым націскам на кавальства. А гэта таму, што «ўчора і сёння» ў кавальстве мне трохі вядомае. Лічу, што кавальскае рамяство на вёсцы з'яўляецца рамяством найважнейшым, бо яно цесна звязана з сельскаю гаспадаркай. Без добрай рамонтнай базы сельскагаспадарчага інвентара не можа быць і гутаркі аб інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі.

Каб лепш зразумець сітуацыю, якая склалася зараз на вёсцы, прывяду маленькі дыялаг паміж кавалём і селянінам:

Пачатак снежня мінулага года. Слізгота. У кузню ўваходзіць селянін.

— Падкуем коніка? — пытаецца. — Не падкуем, — адказвае каваль. — Чаму? — Маю за многа работы. — Але ж мусім падкаваць, няўжо ж я дарма ехаў 8 кіламетраў. — Зразумей мяне. — кажа каваль, — калі я падкую табе каня, то не падкую таму, хто ўжо чакае 2—3 дні на сваю чаргу. Селянін са злосцю: — Але зразумей мяне. Пазаўчора паехаў з да Гарадка (18 км), прастаяў цэлы дзень у каваля і не падкаваў. учора з'ездзіў да Лішчанай (8 км.), таксама не падкаваў. Сёння прыехаў да цябе. Скажы, што я маю рабіць?

Вось гэты кароткі дыялаг найлепей сам за сябе гаворыць пра тую сітуацыю ў рамястве, якая сёння запанавала на вёсцы. Сітуацыя гэта не пахазвае на лепшае, а з кожным годам пагоршваецца.

Не лепш і з іншымі рамеснікамі на вёсцы. Знайсці майстра наладзіць хату, паставіць новыя. ці хоць парамантаваць старыя печы — гэта цяпер на вёсцы нялёгкая справа. Адно толькі шчасце, што такія паслугі не так часта селяніну патрэбны.

Каб зразумець, што было прычынай вышэй апісанай сітуацыі ў дробным рамястве, успомню мінулыя факты.

Першыя гады пасля вызвалення не былі ласкавымі для дробнага рамяства. Фінансавыя аддзелы бачылі ў кожнай нават невялікай рамесніцкай майстэрні грознага канкурэнта дзяржаўнай прамысловасці. У такіх умовах рамеснік не толькі не мог зарабіць для сябе, але ў некаторых выпадках не даваў рады зарабіць на падаткі. •

Разбудоўваючаяся дзяржаўная прамысловасць патрабавала неабмежаванай колькасці розных спецыялістаў. Знайшоўшыся ў цяжкіх умовах, рамеснік зачыняў сваю «буду» і ішоў працаваць у дзяржаўную прамысловасць. Той рамеснік, які заставаўся на «вякамі заседжаным месцы», рабіўся земляробам, а ў майстэрні працаваў хаваючыся ад урадаўцаў з фінансавага аддзела.

Па VIII Пленуме ЦК ПАРП выйшла пастанова, якая звальняла ўсіх платнікаў грунтовага падатку ад падатку дахадовага. Частка рамеснікаў скарыстала з дабрадзейства гэтай пастановы. частка аднеслася да яе з недаверам і далей вяла рамяство «дзіка». а тыя рамеснікі, якія пайшлі працаваць у дзяржаўную прамысловасць у горадзе, абжыліся на новым месцы і адчулі на саб дабрадзейства пагаворкі «Н бываць бы шчасцю, каб не памагло няшчасце».

Ад таго часу па сённяшні дзень выйшла многа пастаноў, палягчэнняў, якія прычыніліся да развіцця дробнага рамяства, а на IV з'ездзе ПАРП выйшла нават пастанова аб сацыяльным убеспячэнні рамеснікаў Рамеснік можа браць доўгатэрміновыя пазыкі на выгадных умовах на будову новых майстэрняў і на пакупку абсталявання гэтых майстэрняў.

(Працяг на стар. 4)




Б. ЛІСАВЕЦ: АПАВЯДАННЕ — ЖАНР СКЛАДАНЫ.

Ул. КАРАТКЕВІЧ: НОВЫЯ ВЕРШЫ.

С. ЯНОВІЧ: МАЯ ЗАГРАНІЦА.

Р. ПАЎЛЮК: ЛІСТЫ З МАЁЙ ВЁСКІ.

ПАЛКОЎНІК АБЕЛЬ РАСКАЗВАЕ.

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

■ 29. III. г. г. распачаў сваю працу XXIII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

■ План і ў далейшым трэба лічыць асноўным інструментам кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, гаворыцца ў рэзалюцыі, прынятай на прайшоўшым Пленуме ЦК Камуністычнай партыі Чэхаславакіі. ЦК Камуністычнай партыі Чэхаславакіі падкрэслівае, што побач з існуючымі метадамі кіраўніцтва сельскай гаспадаркай з дапамогай плана важным звяном новай сістэмы будуць так званыя ўскосныя інструменты кіраўніцтва — прэміі, крэдыты і падаткі. Будуць улічвацца таксама часовыя змяненні ў попыце і прапанове.

■ Сенат ЗША адобрыў пераважнай большасцю галасоў урадавы законапраект аб асігнаванні 13.135.719.000 долараў на патрэбы вайны ў В'етнаме. Амаль усе гэтыя асігнаванні, якія раней былі адобраны палатай прадстаўнікоў, прызначаюцца для расшырэння колькасці амерыканскіх войск у Паўднёвым В'етнаме, павелічэння колькасці перакідваемых туды зброі і боепрыпасаў, а таксама будаўніцтва новых ваенных баз ЗША ў Паўднёва-Усходняй Азіі.

■ Прэзідэнт ЗША Джонсан аддаў распараджэнне паставіць на ўнутраны рынак 200.000 тон медзі з дзяржаўных запасаў. Гэты крок тлумачыцца тым, што ў прамысловасці, асабліва ў ваеннай, адчуваецца недахоп медзі і што прыватныя кампаніі вымушаны плаціць занадта высокую цану пры купілі медзі ў тых кампаній, якія яе вырабляюць. Як вядома, у лістападзе мінулага года па распараджэнню прэзідэнта на рынак было выпушчана таксама 200.000 тон медзі з дзяржаўных запасаў. Абедзве гэтыя меры прывялі да таго, што дзяржаўны запас медзі ў краіне скараціўся да 409.000 тон. Афіцыяльныя асобы ЗША заяўляюць, што гэтага запасу будзе дастаткова для таго, каб задаволіць ваенныя патрэбы краіны на працягу ад двух да чатырох гадоў.

■ Белы дом аб'явіў, што амерыканскі пасол у Дамініканскай Рэспубліцы Бенет назначан паслом у Партугалію. Бенет быў адным з галоўных арганізатараў амерыканскай ваеннай інтэрвенцыі ў Дамініканскай Рэспубліцы вясной мінулага года. Па яго патрабаванню ЗША высадзілі там больш як 20 тысяч сваіх войск і з дапамогай грубай ваеннай сілы падавалі народны рух. Амерыканскія войскі па сённяшні дзень застаюцца ў Дамініканскай Рэспубліцы і паводзяць сябе там, як сапраўдныя акупанты, але Бенета, стаўшага адыёзнай фігурай, вырашылі адхіліць.

■ У час перадвыбарнага выступлення англійскага прэм'ер-міністра Вільсана ў Слау (каля Лондана) 14-гадовы хуліган кінуў у яго бутэлечку з дрэнна пахнучай вадкасцю. Вока Вільсана пашкоджана асколкам гэтай бутэлечкі.

■ Палата прадстаўнікоў бельгійскага парламента 119 галасамі выказала вотум давер'я ўраду Вандэна Буйнантса. Супраць давер'я галасавала 80 дэпутатаў. 13 дэпутатаў адсутнічалі на пасяджэнні.

■ Паўднёварадэзійскія ўлады абвінавацілі англійскага дыпламата Уільяма Блэка «ў шпіёнскай дзейнасці, накіраванай на падрыў эканомікі і бяспекі Паўднёвай Радэзіі» і прапанавалі яму пакінуць краіну.

## БССР

### МАЯ ЗАГРАНІЦА (2)

### ПРЫЕХАЎ У ГРОДНА

Гродна было мне невядомым горадам, і я цэлымі днямі знаёміўся з ім.

У кожным горадзе на свеце ёсць сваё сарамлівае месца, аброслае цікаўлівай легендай, як цела жанчыны. У Беластоку ёсць славутая Выгода, а ў Гродне — П'яны Вугал, лабірынт вуліц і завулкаў паблізу табачнай фабрыкі. Такая назва пайшла праўдападобна ад таго, што пасля вайны тут было мноства «забягайлавак». У аколіцы П'янага Вугла пражыў я амаль паўмесяца і калі пачуў п'яны спеў, дык быў гэта спеў у хаце, у якой адбывалася вяселле. Відаць, і П'яны Вугал больш страшны сваёй легендай, чым напраўду — так, як наша Выгода.

Найноўшае Гродна пачынаецца недзе за вежаю францішканскага касцёла. Там далёкае пласкагор'е стандартных «блёкаў». Хадзіў я туды мяшаючы гразь ранняга прадвесня на правізорных вуліцах. Было мне блізка, зараз жа за задворкамі астатніх хат свежа абмешчанелых вяскоўцаў.

А ў цэнтр горада і далей жа да вуліцы Сацыялістычнай ездзіў «сямёркаю», учціва ўкідаў у касу чатыры капейкі і адрываў сабе білет, падобны да нашых білетаў у кіно. У Гродне шмат аўтобусаў без кандуктара, а ўчцівасці пасажыраў дапільноўвае шафёр, ён мае перад сабою падаўгаватае люстэрка, у якім відаць, хто плаціць, хто не. Кантролю білетаў не было ні разу, кара за праезд без білета — 50 капеек. Пішу гэта тым, хто выбіраецца ў Гродна. Аднаго разу здарылася так, што не меў я дробнай манеты; тады прабіваўся да шафёра, у якога купіў за дваццаць капеек талоны на пяць праездаў (па 4 кап.). Потым ужо стараўся мець дробныя, бо аўтобусы цесныя, кідае імі на каўдобінах з'езджаных гродзенскіх вуліц. Вуліц брукаваных.

Увечары хадзіў са знаёмым у лазню — краны з кіпенем, гарачы дождждык, бярозавыя венічкі; мускулістая рука трэ спіну, давіць на каменнай ляжайцы. Здаецца, абліняю ад гарачыні, расплывуся пад хлёсткім струменем з цэбрыка, самлею ў пары. Прытамнею ад пырскаў халоднай вады. Разяўляю шырока рот — а другім людзям хоць бы што.

Словам, праўдзівая лазня, аб якой ўсё расказвае мне маці, якая была ў «бежанстве» ў Расіі, за Самараю.

У Беластоку, беластоцкая лазня выдаецца пародыяй лазні.

Сын знаёмага прыйшоў з канькоў — расчырванелы і задаволены. Быў на рацэ. На замёрзлым Нёмане як бы зімовы стадыёнчык. Тоўсты мае лёд глыбачэзны Нёман. Перад выездам з Гродна бачыў я, як пачаў ён трэскаць. Доўгая адліга зрабіла сваё, на Нёмане пачаўся крыгаход, а на тлумных, бо старых і вузкіх тратуарах горада несамавітая шляпаніна.

Калі так ходзіш па горадзе, не адчуваеш маскоўскага часу і звычаяў савецкай арганізацыі жыцця.

Іду ў магазін, трэба ўрэшце штосьці купіць на памятку, а магазін зачынены: аказваецца, сёння панядзелак і выхадны дзень; прыходзь у любы дзень, ці ў нядзелю, толькі не ў панядзелак. Назаўтра мне спатрэбілася з'явіцца ў домаўпраўленні № 1. Угаварыўся на дзевятую гадзіну. І ледзь паспеў на дзесятую. Чырванеў ад непрыемнасці. Потым хадзіў яшчэ кудысьці і таксама, як кажуць, не ў пяць, не ў дзесяць. Зайшоў якраз на тую гадзіну, калі ўсе выйшлі дамоў на абед. Вярнуліся праз гадзіну. Перапынкі на абед — мне навіна.

(Працяг на стар. 4)

## ПОЛЬШЧА

### Колькі нас у Польшчы

**Галоўная статыстычная кантора (ГУС) выдала нядаўна статыстычны справачнік. У ім знаходзім дадзеныя адносна насельніцтва нашай краіны.**

Аказваецца, што 31 снежня мінулага года было нас **31 мільён 551 тысяча чалавек.** На працягу года прыбыло нашай краіне крыху больш чымсьці 300 тысяч асоб — роўна па 10 чалавек на кожную тысячу. Але аднačасова ў гэтым часе выехала за мяжу на пастаяннае жыхарства аж 31 тысяча асоб. Да нас з іншых краін прыязджалі таксама, хаця менш. Так што астаткова на працягу года насельніцтва Польшчы павялічылася на 283 асобы.

Пастаянна ўсё яшчэ **больш у нас жанчын чымсьці мужчын.** Тут сваё пятно аставіла вайна. У першым годзе пасля вайны на 100 мужчын прыпадала аж 118 жанчын, цяпер — 106. Розніца гэта будзе штогод змяншацца на карысць мужчынскага роду, бо **хлопчыкаў родзіцца больш ад дзяўчынак.** У мінулым годзе ў кожнай тысячы жывых нованароджаных на 13 хлопцаў было больш. **Больш таксама кавалераў ва ўзросце да 24 год, ад дзяўчат аднагодкаў.** Далей (25—30 год) розніца ідэальна заціраецца, каб у пазнейшым узросце перахіліцца на бок жанчын. З таго відаць, што нашым прыгажуням не пагражае старапаненства.

**Жанчыны жывуць даўжэй.** Вось ва ўзросце 65—69 год на кожных 100 дзядзькоў прыпадае 141 цётка, а калі ўзяць яшчэ 5 год старэйшых, дык бабулек ёсць ужо два разы больш; 100 старых мужчын, якім удалося перасягнуць 95 год жыцця, могуць любавацца аж 363 жанчынамі.

Польшча — краіна маладых. Звыш 40% насельніцтва нарадзілася ўжо пасля вайны, а 30% сярод іх не дарасло яшчэ да 16-ці год. Статыстычны сярэдні ўзрост мужчын — няцэлыя 26 год, жанчыны — крыху больш як 29 год. На працягу бліжэйшых і наступных гадоў колькасць наймалодшых будзе памалу памяншацца, а павялічыцца колькасць старых. Пад канец 1970 года юнакоў да 16-ці год будзе ўжо 27%, а старых (звыш 60 год) 13%.

Спецыялісты таксама падлічылі, што шмат павялічыўся сярэдні час людскога жыцця. Для жанчыны складае ён цяпер 73 гады, а для мужчыны — 67,3 г. Гэта дзякуючы поспехам нашай службы аховы здароўя.

Паміж жыхарамі гарадоў і вёсак захоўваецца амаль што раўнавага. Вясковых было на 200 тысяч больш ад гарадскіх. Аднак з працы непасрэдна на зямлі ўтрымоўвалася ў тым часе ледзь 35,7% агульнага насельніцтва краіны. Гэта паказвала б на тое, што ў нашых вёсках жыве многа людзей нехлебаробаў (рабочых, настаўнікаў, аграномаў, лекараў і тп.). Іх колькасць дагэтуль пастаянна расла і будзе расці.

Людзі ў нас нераўнамерна раскінуты па ўсёй краіне. Найбольш там, дзе высока пастаўлены промысел. Вось у Катавіцкім ваяводстве на 1 кв. км прыпадае аж 370 чалавек, калі сярэдняя для цэлай краіны 101 чалавек на 1 кв. км. Даволі густа заселены ваяводствы Кракаўскае і Гданскае. Найменш людзей у Кашалінскім ваяводстве, ледзь 42 асобы на квадратны км.

Гэтыя лікі вучаць нас, што стаемся прамысловай краінай, што трэба нам многа школ і заводаў, каб абяспечыць навуку і працу для арміі маладых дарастаючых грамадзян.

## ВАЯВОДСТВА

### ЭСТАФЕТА ЧЫНУ

Заклік познаньскага машынабудаўлянага камбіната «Г. Цагельскі», каб прадукцыйным чынам вітаць Першамай і апошні год святкавання Тысячагоддзя польскай дзяржавы, шырокім рэхам прайшоў па краіне. У Беластоцкім ваяводстве на гэты заклік як першае адгукнулася *Чыгуначнае прадпрыемства стальных канструкцый* (КЗКС) у Старасельцах. Калектыў прадпрыемства абавязаўся даць звыш плана шматмільённую прадукцыю, датэрмінова закончыць многа элементаў розных канструкцый, на якія чакаюць другія прадпрыемствы. Старасельскае прадпрыемства за выдатныя вынікі ў прадукцыі заваявала *пераходны сцяг* Міністра камунікацыі і Галоўнага Праўлення прафсаюзаў чыгуначнікаў.

З апошніх паведамленняў даведваемся, што ў след за КЗКС пайшлі: *Прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва* ў Граеве і калектыў *Беластоцкага прадпрыемства будаўлянага транспарту*.

### НА ВЁСЦЫ ТАКСАМА...

...распачаўся сезон чыну. Перш за ўсё вялікі ўздым і зацікаўленне выклікаў IV-ты ўжо конкурс пад лозунгам: *«За найчысцейшыя горад і вёску Беласточчыны!»*, які аб'явіў: Прэзідыум Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу, прэзідыум ВРН і рэдакцыя «Газеты Беластоцкай».

Як адна з першых адклікнулася Белавежа. На спецыяльнай, гэтаму пытанню прысвечанай, сесіі ГРН белавежцы пастанавілі: перабудаваць вуліцу Сточак, палажыць тратуар даўжынёю ў 2 км, пасадзіць 600 дрэвак і 5 тысяч метраў жываплоту, падрыхтаваць стаянку для аўтамашын, якія цэлымі чарэдамі з'язджаюцца сюды ў сезон. У праграме многа яшчэ другіх мерапрыемстваў. Белавежцы заклікаюць да спаборніцтва другія вёскі і пасёлкі, асабліва сядзібы ГРН-аў. Спадзяемся, што пасля заканчэння конкурсу будзем мець прыемнасць павіншаваць Белавежу з перамогай.

Да конкурсу, аб якім мова, прыступіла вёска Пасынкі ў Бельскім павеце, а таксама распачала пабудову дарогі грамадскім чынам вёска Зачэрляны ў Лапскім павеце. Ды многа іншых вёсак, аб якіх мы яшчэ не ведаем.

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

PONIEDZIAŁEK, 4.IV.

16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Poli i tajemnica siedmiu gwiazd" — film; 17.15 Dla młodych widzów: „Rower"; 17.35 „Nowe zawody na wsi" — („7 milionów młodych"); 17.55 Program publ.; 18.20 „Spacerkiem po kinach"; 18.50 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 „Teatry Rzymu" — film pol.; 20.15 Teatr TV: „Horsztyński" — dramat Juliusza Słowackiego. Reż. — J. Kreczmar. Wykonawcy: W. Mazurkiewicz, H. Stankówna, H. Zembrzuska, M. Żabczyńska, A. Antkowiak, H. Borowski, W. Hańcza, T. Jastrzębowski, Z. Mrożewski K. Pągowski, L. Pietraszkiewicz, W. Rajewski, J. Świderski, Cz. Wołłejko, Z. Zapasiewicz. 21.35 „Na półkach księgarskich"; 21.45 Dz. telewizyjny; 21.55 11 lekcja jęz. ang.;

WTOREK, 5.IV.

9.30 „Zwariowane lotnisko" — film fab. radz.; 11.55 Dla szkół. (kl. XI) Język polski — Leon Kruczkowski „Niemcy" („Dzieje dramatu") 12.25 Przerwa; 16.15 Program dnia; 16.20 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka (Prawa gazów doskonałych. Równania gazu doskonałego. Stała gazowa). Wykładowca: prof. dr J. Hurwic; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: Kino „Ptyś"; 17.25 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę"; 17.55 „Spotkanie z przyrodą"; 18.20 „Południowe rytmy na Brodvay'u" — film seryjny; 18.45 „21" — teleturniej; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 Koncert estradowy Radia i Telewizji (Moskwa); 20.40 „Bez apelacji" cz. I; 21.30 „Bigos" — film TV („Dzień ostatni dzień pierwszy"); 21.55 Dz. tel.; 22.05 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka. (Prawa gazów doskonałych. Równanie gazu doskonałego. Stała gazowa). Wykładowca: prof. dr J. Hurwic (Gdańsk) powt.; 22.35 11 lekcja jęz. franc.;

ŚRODA 6.IV.

10.05 „Pewnego pogodnego poranka" — film z serii dr Kildare (Katowice); 10.55 Dla szkół: (kl. lic.) „Panorama" — wiadomości o Polsce i świecie; 11.25 Przerwa; 16.10 Program dnia; 16.15 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka. (Logarytmy. Funkcja wykładnicza i logarytmiczna). Wykładowca: doc. dr A. Zięba (Wrocław); 16.45 PKF; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Mały kwiatek" — film („Przygody błękitnego rycerzyka"); 17.10 Reportaż z Zasadniczej Szkoły Poligraficznej w Katowicach—Piotrowicach; 17.35 „Na zdrowie"; 17.55 Tygodnik wiejski — „W chłopskich oczach"; 18.20 „Sylwetki X Muzy" — Alina Janowska; 18.50 Wszechnica TV: „W poszukiwaniu odległych cywilizacji" („Czy w kosmosie jest życie"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 TV Kurier Warszawski: 20.15 „Pewnego pogodnego poranka" — film z serii dr Kildare (Katowice); 21.05 „Światowid" — mag. spraw między.; 21.30 Koncert solistów. Wykonawcy: Jerzy Artysz — śpiew, Jovan Jovicic — gitara. Barbara Strzelecka — akompaniament; 21.50 Dz. tel.; 22.00 Politechnika TV: Kurs Przygotowawczy. Matematyka (Logarytmy. Funkcja wykładnicza i logarytmiczna). Wykładowca: doc. dr A. Zięba (Wrocław) powt.; 22.30 11 lekcja jęz. ros.;

CZWARTEK, 7.IV.

15.45 Program dnia; 15.50 11 lekcja jęz. franc. powt.; 16.10 TV Kurs Rolniczy: „Ochrona sadów w roku 1966"; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci; „Największa pisanka" — gawęda o zwierzętach; 17.20 „Z drugiej strony szklanego ekranu" — skrzynka ZURT-u; 17.35 „Nie tylko dla pań" — mag.; 18.05 „Lira" — program muzyczny (Wrocław); 18.30 „Pod znakiem jakości" — program nr 7; 18.55 „Kwadrans zagadek" — teleturniej; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 „Dzisiejsze Węgry" — film; 20.15 „Ucieczka od przeznaczenia" — film fab. USA od lat 16; 21.25 „Budujemy domek mały" — rep. (Kraków); 21.50 Dz. tel.;

PIĄTEK, 8.IV.

16.30 Program dnia; 16.35 11 lekcja jęz. ang. powt.; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Film; 17.30 „Na morskich szlakach" (Szczecin); 17.55 „Odpowiadamy na pytania w sprawie Politechniki TV"; 18.20 Koncerty fortepianowe Jana Sebastiana Bacha. Grają: Barbara Hesse-Bukowska, Renata Jankowska, Dorota Rakowska, Jolanta Zajkowska, Orkiestra Symfoniczna Państw. Filharmonii Krakowskiej; 19.20 Niespodzianka na dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 „Chełmno" — („Z kamerą po kraju"); 20.15 Teatr TV (Katowice): „Proces Ryszarda Waverley" — dramat Ralfa Schneidera; 21.35 „I dokąd zajdziesz" — rep. („Niezwykła okazja"); 22.10 „10 minut recenzji" — przed kamerą Wł. Maciąg; 22.20 Dz. tel.;

SOBOTA, 9.IV.

11.15 Program dnia; 11.20 „Barbara Radziwiłłówna" — film fab. pol. (archiwalny); 12.55 „Dziadek do orzechów" — film muzyczno - baletowy (niem.); 13.50 „Egipcjanin" — film fab. USA; 16.05 11 lekcja jęz. ros. (powt.); 16.25 Program tygodnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Dzień dobry, niedzielo czyli Liga Entuzjastów Wakacji"; 17.30 „Rysunkowe przygody" — film; 17.55 „Po szóstej" — TV Klub Młodzieżowy; 18.35 „Dwie epoki" — rep.; 19.00 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Wybitni artyści" — Koncert solistów; 20.30 Dz. tel.; 20.45 Wiadomości sportowe; 21.40 „Pułkownik Chabert" — film fab. NRF (dubbing);

NIEDZIELA, 10.IV.

8.35 Program dnia; 8.40 „Spotkanie w St. Louis" — film fab. USA; 10.30 „Wielka, większa, największa" — film fab. pol.; 12.05 „Poczta dobrej nadziei"; 12.20 „Dziewczęta z Nowolipek" — film fab. pol.; 14.00 „Marzenioki" — widowisko regionalne (Katowice); 14.30 Film z serii „Koń, który mówi"; 14.55 Teatrzyk dla przedszkolaków; 15.35 Adam Mauersberger z cyklu „Ludzie i zdarzenia"; 15.50 „Perły i dukaty" — film pol.; 16.15 Sprawozdanie sportowe. W przerwie około 16.45 PKF; 17.45 Niedzielny teatr tv „Czwarty do brydża". Adapt. opowiadania K. Makuszyńskiego. reż. P. Rzeszewski; 18.20 Z cyklu „Portrety" pod red. G. Lasoty program pt. „Pablo Casals"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik tv; 20.00 Słownik wyrazów obcych; 20.20 Rozrywkowy konkurs miast; 22.20 Niedziela sportowa; 22.45 „Awantura o dziecko" — film fab. fr. od lat 16.

# БЕЛАВЕЖА

орган літаратурна-мастацкага аб'яднання пры ГП БГКТ № 88


**СЫМОН РАМАНЧУК**




Калі яны выселі з аўтобуса, ён стаў на плошчы, агледзеў дамы, сквер з каляровымі лаўкамі, дрэвы. Глядзеў навокал, быццам шукаў чагосьці, успамінаў, а потым спытаў у дзяўчыны:

— Даўно сквер гэты ў вас?

Тая здзіўлена агледзела хлопца.

— Ён заўсёды быў тут? — спытаў ён зноў.

— Ну, а як жа? А чаму ты пытаеш?

— Прыгожы ён...

— Пойдзем, — сказала дзяўчына.

— Вунь, дом наш, той вялікі, за царквой... І бацькі ідуць, сустракаюць нас.

— Пойдзем, — сказаў хлапец.

Ён прыехаў у яе дом першы раз, хаця зналіся яны даўно і пра іх гаварылі «нарачоныя». Бацькі сустрэлі яго з радасцю. Пасля абеда выйшлі ў сад, дзе ў альтанцы ўсё ўжо было гатова к чаю. Нават самавар быў. А сад быў слаўны, старынны, вялікі, добраўпарадкаваны, з дарожкамі высыпанымі жоўтым пясочкам, з алейкамі роз. Шапатала лісце, гэта ветрык гуляў з ім. Працягвалася прыемная гутарка яшчэ за абедзенным сталом. Хлопец сказаў:

— А мястэчка ваша мне знаёма... Гэта, так сказаць, мой паўторны візіт.

— Та-ак? — здзівілася дзяўчына. — Ты ніколі аб гэтым не гаварыў.

— Гэта страшная гісторыя маіх дзіцячых год і я не хацеў успамінаць аб гэтым. Сённяшні прыезд сюды, гэта плошча прыпомніла мне ўсё... Тады сквера не было. Тады было інакш...

— А калі гэта было? — пацікавілася маці дзяўчыны. — Няўжо вы былі ў нашым горадзе? — працягвала яна неяк дзіўна ўсміхаючыся. Хлапец заўважыў, што твар жанчыны на ўспамін аб яго дзіцячых гадах асунуўся, пабялеў, але тут жа зноў прыняў свой даўны, упэўнены выгляд.

— Быў, але гэта было яшчэ ў сорак першым, — пачаў хлапец, калі бацька, толькі цяпер ажывіўшыся, папрасіў расказаць аб гэтым.

— Везлі нас ужо другі дзень. Далёка засталася наша абвугленая вёска, скрылася за лесам апошняя хата, у якой мы нядаўна начавалі. Начлег гэты быў своеасаблівы: начавалі на лузе. Колькі казачных пахаў нёс ліпеньскі няскошаны луг! Але ніхто, аднак, не звяртаў на гэта ўвагі, Усіх займала адно пытанне: што будзе сёння, заўтра? Куды нас павязуць?.. У вёску нас не пусцілі, там затрымаўся нямецкі атрад, што ішоў на ўсход.

Сонца ўстала чырвоным ад начных пажараў, і каб не бачыць людскога гора, схавалася за хмары. Шчаслівае яно, сонца!

Яно можа схавацца за хмары і доўга адтуль не выходзіць. А мы ўсё павінны рабіць адно і тое ж: ехаць і ехаць недзе далёка, далёка... Абоз наш расцягнуўся, як вужака ў летні, спакойны дзень, доўгай істужкаю. Амаль на кіламетр. Едзем мы на чужых вазах, свае пакінулі ў вёсцы. Такі быў прыказ. Заўтра — пазаўтра немцы пагрузяць усе нашы пажыткі і павязуць у Нямеччыну. Так яны робяць усюды...

...А мы едзем і едзем. Пачынае крапаць дождж, калі з-за паварота паказваюцца дамы нейкага мястэчка. Праз некалькі хвілін мы ўязджаем на яго шырокую плошчу. Паабапал яе — разваліны ад нядаўных налётаў.

Дождж мацнее. Мне зімна і я, утуліўшыся ў паліто, лезу пад воз. Вецер заносіць і сюды кропелькі халоднага дажджу і яны. сцякаючы, казычуць мне шчаку. Вазы выстраіліся ў шэраг, коні прыказана выпрагчы. З гутаркі старшых даведваюся, што тут нас раздзеляць. Частка паедзе ў Беласток, іншыя — па навакольных вёсках.

Я пачынаю драмаць, але будзіць мяне нейкі шорах. Я гляджу: уперадзе, пад возам дзядзькі Мікалая ў маім напрамку паўзе нейкая чорная галава. Раптам яна затрымліваецца, і я бачу, што гэта невялікі, такі як я, заплаканы хлопчык. Ён у адной парванай кашульцы і кароткіх штоніках. Ён дрыжыць, яму, пэўна, зімна. Я яго не ведаю, але ён мне падабаецца. Ён плача, і мне хочацца ведаць, чаму ён плача.

— Лезь сюды, — гавару я. — Нагрэешся. Хадзі, у мяне полы шырокія... Ён маўчыць, гледзячы на мяне, і я на карачках паўзу пад возам да яго. Але нечакана перада мною паяўляецца нейкая велічэзная рука, хапае хлопчыка за руку і ён — знікае. Я чую, як хлопчык крычыць, не хоча ісці.

Калі я вылез з-пад воза, хлопчык ужо бег па плошчы. Немцы штосьці крычалі. Я хацеў пабегчы за ім, але мама пацягнула мяне за паліто, прытуліла да сябе. Тут жа раздаўся выстрал, і хлопчык перастаў бегчы. Ён пахіснуўся, упаў, перавярнуўся і — застаўся ляжаць на шырокай брукаванай плошчы. Усе змоўклі, перарваліся размовы. Жанчыны плакалі. Я спытаў у мамы: чаму яго забілі. Мама сказала, што гэта яўрэй. — А што ён зрабіў кепскага? — пытаў я далей. — Нічога, сынок. — Чаму ж тады яго немцы забілі? Чый ён?

— Ціха, сынок, — сказала мне мама. Але я хацеў ведаць і зноў пытаў: — Ну, чаму яго забілі. мама? — Яго злавілі немцы. — Але за што? — Мама мне адказала: — Не ведаю, дзетка, не ведаю...

Мне страшна. але я гляджу на плошчу. Хлопчык ўсё яшчэ там. Па плошчы ідзе група немцаў. Сярод іх — невысокая маладая жанчына. Яна рагоча і нешта гаворыць да іх. Яны затрымліваюцца ля ляжачага хлопчыка. Адзін з немцаў кранае яго ботам. А потым падыходзяць да нашых вазоў. Жанчына стаіць блізка, і я ўглядаюся ў яе твар. Прыгожая яна. Але чаму яна з імі? Хто яна, немка? Але яна пытае нас па-нашаму: — Адкуль вы? — З-пад Нараўкі, — адказваюць людзі. — Не прападзеце. Наканец, парадак будзе...

І адыходзіць. Хто ж яна? Чаму яна з немцамі? Яна ж або беларуска, або полька! Няўжо нашы людзі могуць быць з імі? Няўжо можна так проста, абыякава глядзець на смерць гэтага хлопчыка? Яна прыгожая, гэта жанчына...

— Не ведаю, не ведаю, — паўтарыў хлапец, углядаючыся ў твар седзячай побач яго жанчыны. — Мо мне тады гэта проста здавалася. Мо мне здавалася, але адно вока жанчыны было меншым... Калі яна ўсміхалася, яно яшчэ змяншалася. І тады яна пераставала быць прыгожай...

— Гэта няпраўда! Не! не! — крыкнула раптам маці дзяўчыны.

Хлапец не адказаў нічога. Бацька з дачкой захваляваліся, прыўсталі, пераглядаючыся. Хлапец пабляднеў, убачыўшы расшыраныя вочы жанчыны. Ён з жахам убачыў — «Яна»! Ён не пераставаў глядзець на твар жанчыны, на яе вочы. Яны былі вялікія, злыя і адно, правае, было меншым. Ён стараўся ўспомніць яе, ён ужо ведаў, гэта была тая самая жанчына з таго ліпеньскага дня ваенных год. І каб яму не перашкодзілі, ён баяўся гэтага, ён спяшаўся сказаць галоўнае. Зрэшты, усе маўчалі.

— А праз паўгадзіны мы, падзеленыя, паехалі далей, у вёску Паўлавічы. Ад аднойз жыхарак мястэчка даведаліся, што жанчына, якая нядаўна шпацыравала з немцамі, аддала ім яўрэйскага хлопчыка. Раніцаю, людзі бачылі, да яе ў хату ўбегла маладая, прыгожая жанчына — яўрэйка. Яна ўцякала ад пагоні. Прасіла схаваць хлопчыка — сыночка. На стол вылажыла горбу золата, кольцаў, браслетаў — ўсю сваю маёмасць. Яўрэйку вывелі ў сад, нібы паказваючы дарогу ўцякаць. Проста ў сад, дзе ў альтанцы адпачываў нямецкі афіцэр... А хлопчык уцёк на вуліцу, знайшоў прыстанішча пад возам, але яго і там знайшла рука афіцэра... «Гэта той самы сад, праўда?» — спытаў хлапец жанчыну.

— Што ты гаворыш, адумайся!... — сказала дзяўчына.

— І гэта тая самая альтанка, дзе сядзеў нямецкі афіцэр. праўда? — зноў пытаў хлапец. — І гэта вы, вы тая жанчына з плошчы...

Маці дзяўчыны, не зводзячы вачэй з хлапца, ціха сказала:

— Ну, я... і што, што гэта я?..

— І вы можаце спакойна гаварыць?

— А што ж? Я за гэта, калі ведаць хочаце, адсядзела. І нямала нават...

— Вас забіць за гэта трэба было... — сказаў ціха хлапец.

— Ты што гэта? — закрычала дзяўчына.

— Я нічога. Прынясі мой плашч.

— Ты не паедзеш! — сказала яна.

— Няўжо ты думаеш, што я магу быць у т а к о й хаце?

— Адумайся! Ты ж кахаеш мяне!

— Ты гэтага слова ніколі больш не гавары. Яно святое.

— А што я зрабіла табе? Што зрабіла табе мая маці?.. Падумаеш, скандал вялікі, жыдзяня згінула...

— Маўчы! — злосна сказаў ён. — Калі б ты ведала смак жытняй зацеркі зваранай на лузе ў той дзень, каб ты ведала, як ходзяць з торбай ад хаты да хаты просячы хлеба ці жменькі круп, пэўна, ты была б іншай. Але ты і цяпер носіш чужыя пярсцёнкі, брошкі і браслеты... А я і не ведаў, адкуль яны ў цябе... Прынясі плашч.

— Пачакайце! — прамовіў бацька. — Гэта ўсё было не так...

— Жонкай займіцеся, бачыце, аслупянела яна. Мову нат заняло... А тады рагатала, пачвара...

— Як ты можаш?! — крыкнула дзяўчына.

— Я цяпер усё магу...

І ён пайшоў не развітваючыся. Плашч, які вынес яму бацька дзяўчыны, ён на вуліцы страсянуў, выцер хустачкай рукі. Ён баяўся, што паветра з іх дому будзе ісці за ім, і ён, як мага хутчэй, пайшоў к аўтобусу.

Каля плошчы дагаліла яго дзяўчына. — Пачакай ну, пачакай!.. Не ад'язджай, чуеш?! Я зараз вярнуся... З маці кепска. Я к доктару.. Зараз вярнуся. — Не ад'язджай...

Ён увайшоў у пад'ехаўшы аўтобус.

## ЁСЦЬ ТАКІ ДЗЕНЬ

І ўзнік дзень.
  І быў ён вертыкальны.
І Адаму сказалі: Гэты дзень твой:
  І жыві, каб не каяцца.
І сказаў ён: Буду памятаць.
  Г буду жыць, як прыказана.

А калі прыйшла Ева,
Ён падумаў:
  Быў бы дзень, якога няма,
  Я б заблытаў яе у сваіх руках,
  Я б заблудзіўся у яе валасах,
  Я б утапіўся у яе вачах,
  Я б насіў яе на сваіх руках.

І падняла Ева вочы на Адама.
І убачыла:
  Як заблытала яго у сваіх валасах,
  Як утапілася яна у яго вачах,
  Як заблудзілася яна у яго руках,
  Як ён носіць яе на сваіх руках.

І адгадаў вуж думкі іх.
І заманіў Еву раз і другі.
І цвіў сад, як на пагібель.
І пайшла Ева у сад трэці і пяты раз.
І налівалася там сакавітая завязь.
І тады Ева пайшла і сёмы раз.

  І вуж варухнуўся на сваіх суках.
  І кроў зашумела у яе вушах.
  І Вертыкаль калыхнулася у яе вачах.

А калі да Адама раз і другі вярнулася Ева,
Затрымаў яе рукі у сваіх руках.
А калі трэці і пяты раз яе сустракаў,
Затрымаў свае рукі у яе валасах.
А калі сёмы раз знайшоў сваю Еву —
Кроў зашумела у яго вушах,
Вертыкаль калыхнулася у яго вачах.

  І заблытаў яе у сваіх руках.
  І заблудзіўся Адам у яе валасах.
  І утапіўся Адам у яе вачах.
  І панёс яе на сваіх руках.

І узнік дзень, якога няма.
І толькі Адам,
І толькі Ева
Пра яго існаванне ведаюць.

*ЮРЫ ФАРЫНО*

*Уладзімір Гайдук*

## Селянін — мастак

Прасіліся зярняты
Сваёй дарогі
Ім снілася
Песня калосся

Пальцамі мерыў
Жменю жыцця
З непакоем
І радасцю ў сэрцы

З жаваранкам цешыўся
З праменняў і расы
Сваё тварэнне
Апраўдаў надзеяй



# ПАЛКОЎНІК АБЕЛЬ РАСКАЗВАЕ

**Больш як 30 гадоў Рудольф Абель аддаў рабоце ў савецкай разведцы. Абель узнагароджан ордэнам Леніна, двума ордэнамі баявога Чырвонага Сцяга, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Чырвонай Зоркі, некалькімі медалямі.**

**15 лістапада 1957 года Абель быў прыгавораны судом ЗША да 30 гадоў катаржнай турмы. Ён быў выключна мужны і стойкі на судовым працэсе. Пазней Абель быў абменены на амерыканскага лётчыка-шпіёна Паўэрса.**

**Прапануем увазе чытачоў расказ палкоўніка Рудольфа Абеля пра сябе, апублікаваны ў другім нумары часопіса «Молодой коммунист».**

Нарадзіўся я ў Пецярбургу. Мой бацька рабочы. Ён і яго сябры былі звязаны з рэвалюцыйна настроенымі студэнтамі. Яны згрупаваліся ў гурток, які атрымаў назву «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа». Гэтым гуртком, як вядома, кіраваў Уладзімір Ільіч Ленін.

Калі царскі ўрад арыштаваў членаў гуртка, бацька быў сасланы ў Архангельскую губерню, а пасля ссылкі пераведзены ў Саратаўскую губерню пад адкрыты нагляд паліцыі. Там ён сустрэўся з маёй маці. Пастаяннае праследванне паліцыі і жандармерыі вымушала бацьку часта мяняць месца жыхарства. Разам з ім прыйшлося вандраваць і нам.

Усё гэта, натуральна, адбілася на фармаванні майго светапогляду. Цалкам і поўнасцю я быў на баку бацькі і яго сяброў і пры кожным зручным выпадку дапамагаў ім распаўсюджваць бальшавіцкую літаратуру. На большае па малалецтву тады я яшчэ не быў здольны.

У першыя гады Савецкай улады мне давялося працаваць сярод маладых паліт-эмігрантаў, якія вярнуліся на радзіму. Гэта не толькі дапамагло мне ў вывучэнні замежных моваў, але і з'явілася пазней важнай акалічнасцю пры вызначэнні жыццёвага шляху.

У 1922 годзе я ўступіў у камсамол. Займаўся агітацыяй у былым Хамоўніцкім раёне. У гэты час ішла вострая барацьба з трацкістамі за ўплыў на моладзь. Наша ячэйка настолькі актыўна ўдзельнічала ў гэтай барацьбе, што часам справа даходзіла нават да бойкі з трацкістамі.

Многія з нас захапляліся ў вольны час радыёаматарствам. Гэта была пара дэтэктарных прыёмнікаў, іскравых перадатчыкаў — пра радыётэлефанію мы толькі чулі як пра нешта, што зараджаецца. Сучаснай моладзі цяжка сабе ўявіць вынаходлівасць аматараў таго часу. Дрот для шпуль мы даставалі, знімаючы яго са старых, сапсаваных кватэрных званкоў. Крышталі для дэтэктараў адшуквалі ў скалах або ў геалагічных калекцыях. А кандэнсатары для настройкі! Якія толькі формы яны ні набывалі! Памятаю, у 1923 годзе ўдалося дастаць лямпу «Р-5», якая паглынала неймаверную колькасць энергіі на напал. Памятаю, як выдумлялі мы выраб мокрых элементаў для сілкавання гэтай лямпы, якая свяціла пры рабоце не горш, чым добрая гарэлка.

Службу ў арміі я праходзіў у радыёчасцях РСЧА.

У нашай роце было звыш ста масквічоў, якія мелі сярэднюю і вышэйшую адукацыю. Сам я па адукацыі інжынер па радыётэхніцы.

Пасля дэмабілізацыі, зімой 1926 года, мне трэба было ўладкоўвацца на работу. Былі дзве прапановы — навукова-даследчы інстытут і замежны аддзел АДПУ. Мяне прыцягвала і радыётэхніка, і рамантыка разведкі. Таварышы даказвалі, што маё веданне замежных моваў неабходна выкарыстаць на службе Радзімы. Нарэшце, выбар быў зроблены, і з 2 мая 1927 года я стаў чэкістам.

*Працяг будзе*

## Прыехаў у Гродна

*(Працяг са стар. 2)*

Быць у Гродне і не пабачыць азотатукавы завод, гэта тое самае, што быць у Беластоку і не пабачыць фастаўскага камбіната. Ехаў туды апусцелым аўтобусам — ціха і гладка — па асфальтаванай Алеі Касманаўтаў, якая больш падобная на звычайную шашу ў чыстым полі. У аўтобусе шафёр, кандуктарша і я. Шафёр нудзіцца, круціць варшаўскае радыё. Кандуктарша лічыць манету ў торбе. За шыбамі павыпаўзалі вялізныя будынкі і коміны. Гэта азотатукавы завод.

Вярнуўшыся назад у Гродна гаварыў я са знаёмым, які тлумачыў мне, што там, дзе чыстае поле, вырасце каляровы горад. Пашырыцца Гродна, і станецца яно двухсоттысячнай метраполіяй з заводамі нават большымі ад азотатукавага. Спадабалася мне яго гордасць за свой горад, хаця я і не прыхільнік таго, каб будаваць горад навокал вялікіх заводаў.

САКРАТ ЯНОВІЧ

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн у Беластоку пастаянна сочыць за ўзроўнем цэн на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер — у Беластоку, у Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны:

| Прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| **жыта** | **цэнт.** | **300** | **280** | **300** |
| **пшаніца** | **цэнт.** | **450** | **380** | **370** |
| **яйкі** | **1 шт.** | **1,65** | **1,50** | **1,40** |
| **масла** | **кг** | **60** | **55** | **53** |
| **ялавічына** | **кг** | **33** | **—** | **—** |
| **свініна** | **кг** | **36** | **36** | **30** |
| **сала** | **кг** | **34** | **—** | **—** |
| **бульба** | **цэнт.** | **160** | **100** | **110** |
| **цыбуля** | **кг** | **4** | **4** | **3** |
| **капуста** | **кг** | **2,50** | **—** | **2** |
| **буракі** | **кг** | **2** | **2** | **2** |
| **марква** | **кг** | **2** | **2** | **2** |
| **сена** | **цэнт.** | **120** | **—** | **150** |

Адначасова падаем, што ўсе пункты скупкі яек пры ГС-ах не купляюць яек, **якіх вага ніжэйшая ад 4,5 дэкаграмаў, а таксама яек старых, брудных і мытых.**




**МАЗУРКІ**

Мазуркі, сырнікі, кексы і бабкі — гэта святочнае цеста. Аднак найбольш традыцыйным велікодным цестам з'яўляюцца мазуркі. Яны наогул бываюць плоскія і нізкія, маюць розную форму і заканчэнне: вельмі скромнае альбо вельмі багатае. Найчасцей складаюцца яны са споду крухога або пясочнага, надзявання і глазуры. Бываюць таксама з цеста на дрожджах з вялікай колькасцю бакалеяў (фігі, міндалі, слівы, арэхі, фінікі, разынкі). Могуць быць на вафлях і аплатках.

Звычайна накрываем святочны стол цэлымі мазуркамі. Але можам паставіць парэзаныя на малыя кавалачкі — квадратныя, прамавугольныя.

Сёння падам некалькі рэцэптаў на мазуркі, якія вельмі хутка можна зрабіць і даволі танна.

**Шакаладная мазурка.** Трэба падрыхтаваць 30 дкг цукру пудры, 30 дкг шакаладу, 30 дкг міндаляў або арэхаў, 6 бялкоў, 1 лыжку вішнёвага соку, палова палачкі ванілі, 1 вафля.

Збіць пену з 6 бялкоў, дадаючы па лыжачцы цукру пудры, змяшаць з пацёртым шакаладам і дробна парэзанымі міндалямі або арэхамі. Даць крыху соку, лёгка ўсё разам вымяшаць і пакласці на вафлю, роўненька рассмараваць і прыбраць верх мазуркі міндалямі. Падсушыць у летненькай печцы. Пасля таго, як выстыгне, мазурку парэзаць.

**Мазурка з крухмалу.** Трэба падрыхтаваць 10 дкг мукі пшанічнай, 10 дкг крухмалу, 15 дкг тлушчу, 20 дкг цукру пудры, 5 яйкі, палову палачкі ванілі, 10 дкг скуркі з апельсіна, 2 дкг масла для смаравання формы.

Масла ўціраем аж да белага колеру, дадаем цукар, пабітую на дробненькія кавалачкі ваніль з цукрам, яйкі, прасеяную муку, увесь час уціраючы праз 20 мінут. Выліць масу на пасмараваную бляху і пячы ў добра нагрэтай печцы каля 30 мінут. Пасля таго астудзіць, паліць мазурку шакаладнай глазурай і прыбраць як

**Аксіння**

## Гарцэры для далёкага В'етнама

*Гарцэры з горада Граева прыслалі нам ліст, у якім пішуць:*

*«Мы гарцэркі і гарцэры шчэпу Грунвальд пры агульнаадукацыйным ліцэі ў Граеве пастанаўляем аддаць па адной залатоўцы з уласных ашчаднасцей на фонд дапамогі для моладзі В'етнама, якія геройскі змагаецца за сваю свабоду. Заклікаем да падобнага чыну ўсіх гарцэраў і несарганізаваную моладзь з усяго павета, ваяводства і краіны. Чувай!»*

*Мы ўпэўнены, што моладзь наша шырока адгукнецца на заклік граеўскіх гарцэраў.*

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# І ГЭТА „КОРМ"

Сеем збожжа. Зямля нядрэнная, усё, што трэба, зроблена, год быў ураджайны. Аднак Беластоцкае ваяводства ўсё яшчэ цягнецца ў канцы табліцы ў сэнсе ўраджайнасці з гектара. Нават у мінулым годзе, калі мы дабіліся 16,5 ц з гектара чатырох асноўных збожжавых культур, мы не аказаліся нават сярод сярэдніх.

Гэта вялізная гаспадарчая праблема, бо нельга забываць, што збожжа ў нас займае дамінуючую пазіцыю, каля 60% ворнай зямлі. Павелічэнне ўраджайнасці на 1 ц раўняецца 600 тыс. ц збожжа, вартасцю 150 млн. зл. Значыць, варта дыскутаваць, варта змагацца. Галоўная прычына нізкіх ураджаяў — малыя нормы мінеральных угнаенняў. Не будзем ужо раўняцца на галандскія ці чэхаславацкія нормы, толькі паглядзім сярэднія нашы, агульнапольскія. Дык вось, на Беласточчыне выкарыстоўваем штучнага ўгнаення ў 2 разы менш, чым сярэдняя норма ў краіне, і ў 3—4 разы менш, чым у перадавых ваяводствах. Як паказалі назіранні, найменш угнаення прызначаецца пад збожжа і на лугі.

Значэнне ўгнаенняў можна паказаць на шматлікіх прыкладах. Напр. Е. Керсноўскі з вёскі Керснова на Бельшчыне зрабіў дослед. Ураджай яравога ячменю, які рос на зусім не ўгноенай глебе, склаў 17,8 ц з гектара. Прымяненне 5 кг азоту (у чыстым складзе) павялічыла ўраджай на 3,3 ц. Калі дадаў яшчэ 100 кг калію, ураджай дасягнуў 21,2 ц, а даданне яшчэ 72 кг фосфару садзейнічала павышэнню ўраджайнасці да 21,8 ц. Там, дзе Керсноўскі даў 50 кг азоту, 100 кг калію і 36 кг фосфару, ураджай быў 21,6 ц з гектара, а павелічэнне колькасці фосфару да 72 кг павысіла ўраджай да 21,9 ц.

На падставе доследаў, праведзеных на нашай тэрыторыі Інстытутам угнаення і глебазнаўства, можна гаварыць аб вялікім значэнні ўгнаення на ўраджай збожжа. Сярэднія вынікі былі наступныя: без угнаення — 15,4, а з угнаеннем (50 кг азоту, 60 кг калію і 72 кг фосфару) — 22,9 ц з гектара.

З гэтых эксперыментаў насоўваюцца важныя вывады для сельскагаспадарчай практыкі. Аказалася, што ні ўгнаенне адным азотам або вялікія порцыі калію не даюць добрага выніку. Для збожжа мае не меншае значэнне і фосфар. Аб гэтым часта забываюць нашыя сяляне. Доследы паказалі, што збожжа больш рэагуе нават на павялічаныя нормы фосфару, чым калію.

Аднак на гээсаўскіх складах яшчэ і цяпер поўна фосфарных угнаенняў. Няма на іх ахвотных. А варта звярнуць на іх увагу, тым больш, што ў бліжэйшыя гады збіраемся дабіцца 19 ц з гектара чатырох асноўных збожжавых культур. Не зробім гэтага, калі не будзем адпаведна ўгнойваць.

Ёсць у нас сяляне, якія дабіваюцца нават 30, 40 і 50 ц зерня з гектара. Напр., Ян Шарэйка з Есяноўкі на Дуброўшчыне дабіўся ў сярэднім ад 42 да 53 ц збожжа з гектара. Гэты выразны прыклад добрай гаспадаркі і магчымасці дабіцца высокіх ураджаяў і даходаў. Калі дабіцца высокіх ураджаяў, збожжа можа даць добры даход. Гэта вялікія шанцы для беластоцкіх сялян, бо на нашых глебах найлепш расце збожжа.

*Інж. М. Сухажэўскі*

## Дробнае рамяство ў вёсцы

**(Працяг са стар. 1)**

Здавалася б, беручы пад увагу ўсе гэтыя льготы і палягчэнні для дробнага рамяства, павінна яно праявіць якуюсьці актыўнасць.

Але нічога падобнага не робіцца, бо галоўная прычына ў тым, што няма ўжо каму карыстаць з гэтых цеплярняных умоў.

На тэрыторыі добра вядомых мне грамадскіх радаў Крушынянскай, Крынкаўскай і Гуранскай ёсць толькі адзін малады рамеснік — каваль, іншыя рамеснікі маюць узрост 55 — 65 год. Яны ўжо задумваюцца над дошкамі на труну. Другой не менш важнай прычынай ёсць тое, што некаторыя пастановы ў тэорыі з'яўляюцца вялікім дабрадзействам, у практыцы такім дабрадзействам не з'яўляюцца.

Традыцыяй мінулых год (да другой сусветнай вайны) было тое, што бацька-рамеснік вучыў сына ці сыноў гэтага самага рамяства і рамяство рэгулярна папаўнялася. Сённяшні рамеснік стары, як бы ён не быў моцны ў сваім рамястве, практычна не мае права да шкалення вучняў.

Юнак, які закончыў пачатковую школу і хоча навучыцца рамяства, ідзе ў горад у завадовую школу і кончыўшы яе нармальна застаецца ў горадзе. Рамяство ў вёсцы вымірае.

Уваходзім у новую пяцігодку. Высокі ўзровень сельскай гаспадаркі акрэсліваецца багатым ураджаем сельскагаспадарчых культур, добрым сельскагаспадарчым забудаваннем, заўсёды стройнымі сельскагаспадарчымі машынамі. І вось гэтая справа цесна звязалася з дробным рамяствам і мае не малы ўплыў на сельскагаспадарчую вытворчасць. Так што дробнае рамяство не з'яўляецца якоюсьці шкоднаю нарасцю на здаровым целе сельскай гаспадаркі, а з'яўляецца жыццедайнаю пажыўкаю для сельскай гаспадаркі. І пра гэта не трэба забываць, гаворачы пра інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі.

**К. Патэльскі**
Крушыняны

**KUPON ZAMÓWIENIOWY**

**NADAWCA:**

........................................

........................................

........................................

........................................

........................................
(dokładny adres)

Znaczek za 20 groszy

P.P. „Dom Książki"
Adresat:
Dział Upowszechnienia Książki
BIAŁYSTOK
ul. Sienkiewicza Nr 24

**Kupon należy wyciąć, wypełnić, nakleić znaczek za 20 groszy i wrzucić do najbliższej skrzynki pocztowej, lub oddać listonoszowi.**

## Каму 72 узнагароды?

**Сельскагаспадарчае і лясное выдавецтва падрыхтавала для сялян састаў 10-ці кніжак пад супольнай назвай «Бібліятэка селяніна-практыка». Ёсць у кнігарнях і шмат другіх кніжак не менш карысных для гаспадароў.**

**Каб як найбольш гэтых кніжак трапіла ў рукі сялян, дзяржаўнае прадпрыемства «Дом кніжкі» ў Беластоку аб'явіла конкурс для тых усіх, хто захацеў бы падняцца продажу сельскагаспадарчых кніжак. Заканчэнне конкурсу прадбачваецца на канец чэрвеня гэтага года. Для тых, каму ўдасца прадаць найбольш, «Дом кніжкі» фундуе 72 узнагароды, сярод якіх І-шая ўзнагарода — 1000 зл., дзве ІІ-гія — па 600 зл., тры ІІІ-ція па — 300 зл. Усе узнагароды ў форме талонаў на кніжкі. Апрача ўзнагарод прадаўцам сельскагаспадарчых кніжак адводзіцца як заплату 15% ад сумы, на якую ўдасца ім прадаць тавару.**

**Больш падрабязна аб конкурсе можна даведацца ў кожнай кнігарні, дзе таксама рэеструюць удзельнікаў конкурсу.**

**Для тых сялян, якія хацелі б атрымаць сельскагаспадарчыя кніжкі па пошце, прапануем вось гэты талончык. (вр)**

# У Гарадку сварацца...

...ціха, амаль моўчкі, але заўзята, да зубоў.

Жыхары Гарадка шчыра, не шкадуючы сіл і не азіраючыся на заплату працавалі пры пабудове свайго дома культуры. Найбольш напрацаваўся працаўнік пошты Іван Трахімчык — старшыня грамадскага камітэта будовы, мясцовы актывіст. Дом з поўным яго абсталяваннем каштаваў звыш 3 з палавінай мільёнаў злотых.

Улады ў гарадоцкім доме культуры паставілі кіраўніка, дзве бібліятэкаршы і прыбіральшчыцу. ГС абсталяваў клуб-кавярню, пасялілася пастаяннае кіно. Хіба дастаткова, праўда? Толькі працаваць. Але як?

Адна энергічная жанчына, у якой шматгадовы вопыт у аматарскім мастацкім руху, гаворыць:

— Самі ведаеце, быў жа калісьці ў нас хор, у цэлым ваяводстве славіўся. Даўнейшыя харысткі і цяпер ахвотна выступалі б. У лютым 1964 года сабралася сярод іх 18 жанчын. Працавіта развучвалі песні. Мелі выступіць у час урачыстага адкрыцця дома культуры. Па начах сядзелі. Падрыхтавалі 18 песень. І ў апошні дзень усё разбіў Трахімчык.

А ў доме культуры жыццё плыве стыхійна. Кіраўнік Яўгеній Альшэўскі абзавёўся вясёлай кампаніяй, якая часценька аблівае сваё гора манапалёўкай у яго службовай канцылярыі. Гэта тады, калі кіраўнік на месцы, а калі паедзе ў Беласток, дык не вяртаецца часам і некалькі дзён. У прыбіральнях брудна і няма вады. Смурод. Прыбіральшчыца бязрадна раскладае рукі. Недзе ў магазінах ляжаць горбы рэпрадукцый карцін. За 40 тыс. зл. А сцены голыя. Прэзідыум ГРН упёрся і кавярню ГС выгнаў на паверх, у пакой, які прызначаўся для рэпетыцый аматарскіх калектываў. Прасторную залу ўнізе пераўтварылі ў залу пасяджэнняў і месца на алкагольна - танцавальныя вечарыны.

— Што я аб гэтым думаю? — паўтарае маё пытанне кіраўнік павятовага аддзела культуры. — Будова так аграмаднага дома культуры ў Гарадку — гэта ўжо далікатна кажучы вялікае недаразумленне. Але цяпер не адменіш. Там трэба добрага кіраўніка, а яго няма. Гэты, што ёсць, не надаецца. Дайце кандыдата, адразу прымем. У Гарадку мог бы быць добры хор, добры драмгурток. Ёсць там ахвотныя і здольныя людзі. Няма каму аднак пакіраваць. Мы нават гатовы памагчы. Маём грошы на інструктаж.

Сакратар прапаганды Павятовага камітэта ПАРП тав. А. Давідзюк кажа:

— У Гарадку ўвогуле неяк трэба актывізаваць культурнае жыццё. Незадоўга наладзім там выязное пасяджэнне нашай камісіі культуры. Тады разгледзім усе справы.

Можа аднак у Гарадку не будуць чакаць, пакуль прыедзе з павета камісія. Былыя харысткі са сваім дырыжорам ужо напэўна забылі пра «адкрыццё», на якое папрасілі шматлюдны калектыў з Беластока і не менш шматлікі калектыў з Ганёндза, а іх не. І зноў пачнуць прыходзіць, каб вывучаць прыгожыя народныя песні. А некаторыя *важныя* гарадчане ў сваю чаргу ім дапамогуць, хаця б добрым словам.

*В. Рудчык*

# Ці трэба паміраць?

Вясенняя раніца. Сонечная, спакойная, поўная радасці жыцця. Ці для ўсіх? Заглянем у бальнічную палату. Тут вядзецца апошні бой за жыццё. Пакідае свет маці шасцёра дзяцей. Найменшаму 8 месяцаў. Смерць гэтай жанчыны, якая памерла ад брушнога тыфу, была вялікім перажываннем і для яе блізкіх, і для тых, хто змагаўся за яе жыццё. Такіх трагедый, дзе, нягледзячы на ўсе цуды сучаснай медыцыны, чалавек памірае, маем штораз менш. Але ў некаторых заразных хваробах магло б іх не быць зусім. Імена брушны тыф належыць да тых хвароб, якія можна зліквідаваць. Краіны, якія раней ад нас паставілі сабе заданне зліквідаваць брушны тыф, маюць ужо 2 разы менш хворых, чым у нас. Гэта Венгрыя, Чэхаславакія, ГДР. Іншыя, як Балгарыя — 5—10 разоў менш.

Якія спосабы барацьбы з тыфам?! Перад усім сістэматычна трымацца гігіены, ліквідаваць усе крыніцы заразкаў. Спосабы нібы простыя, аднак у нашых гігіенічных умовах нялёгкія. Маем яшчэ адзін спосаб, які, аднак, патрабуе добрай волі і зразумення людзей — прафілактычныя шчапленні.

Шчапленні — магутнае аружжа, трэба толькі яго выкарыстаць. Якраз гэты спосаб і выкарысталі краіны, якія ў ліквідацыі тыфу маюць дасканалыя вынікі. Прышчэпка (шчэпёнка) з'яўляецца абсалютна няшкоднай. Бывае часамі, што рука ў месцы шчаплення пухне, баліць, можа нават выступіць гарачка, боль галавы, аслабленне, але ўсё гэта праходзіць без следу, застаецца толькі адпорнасць супраць тыфу на некалькі год.

У нас людзі не дацэньваюць шчапленняў. Часам нават трэба караць. Праўда, трэба 3 разы шчапіцца (першыя два ў месячным перыядзе, а трэцяе пасля года). Але толькі шчапленні даюць поўную ўстойлівасць супроць хваробы.

Трэба зразумець, што шчапленні — вялікае дабрадзейства. Прымаючы прышчэпкі, не дапускаем хваробы да сябе і не з'яўляемся прычынай заражэння іншых. Беластоцкае ваяводства штогод мае многа хворых на тыф. Тым больш трэба дацаніць шчапленні. На пісьмовае паведамленне трэба абавязкова прыйсці на шчапленне. Такім чынам зліквідуем небяспечную хваробу — брушны тыф.

*др БАРБАРА ШЫМАЙДА*
*кіраўнік аддзела эпідэміялогіі*
*Ваяводскай ССЭ*

## Выстаўка карцін гайнаўскіх мастакоў

У Гайнаўскім доме настаўніка паказалі свае навейшыя карціны тамтэйшыя мастакі — аматары: *Віктар Кабац* і *Анатоль Корзун*. Выстаўка сведчыць аб іх даволі высокім узраўні і творчых пошуках. Асабліва арыгінальныя карціны Віктара Кабаца. У іх спалучаецца тэхніка чыстага малюнку з разьбой. Карціны выкананы на дрэве.



Кабац шырока выкарыстоўвае для выяўлення сваіх творчых намераў прыродны колер і структуру дрэва, спалучае яго розныя гатункі, а цэласць кампазіцыі падкрэслівае колерам. Сярод яго мастацкіх работ увагу наведвальнікаў прыкоўвае карціна, якую мастак назваў «Самарытанін».

Сярод карцін А. Корзуна вылучаецца вялікай сілай экспрэсіі карціна «Краявід».

На здымку: Жыхары Гайнаўкі, *Валя Качан* і *Сяргей Ткачэнка* перад карцінай В. Кабаца «Самарытанін». (вр)

*Фота С. Грынявіцкі*

*Легенды нашай вёскі*

# Аб паўстанні Трывежы

Дзе цяпер Важанка і Трывежа даўным даўно жыў пан. Ён там пабудаваўся і засадзіў гектар саду. Вакол яго замка раслі высокія і вельмі прыгожыя дрэвы, звалі іх сокаламі. Меў пад сваім уладаннем многа гектараў зямлі. Полем яго ўладаў падпанак жыд Аніська. Пан, пад якога ўладаннем былі гэтыя землі, не хадзіў па іх, а толькі высылаў свайго падпанка Аніську, а сам з паняй шпацыраваў па сваім парку і час ад часу ўзлазіў на вежу, якая стаяла каля яго двара, і паглядаў на свае доўгія палі, як працуюць яго сяляне. Апрача таго на гары ў полі стаяла яшчэ тры вежы, на якія ўзлазіў падпанак Аніська. Для выгады сабе на цяперашнім трывежскім полі выкапаў пяць лугоў і чатыры сажалкі. Адзін луг назваў Прыстаў, другі Копаным. Потым, каб лепшы быў на палях ураджай, выкапаў рэчку, якая плыве з Барысаўкі каля Васількова, Рэпіск, Трывежы, Важанкі і аж пад Наваcорніна. Надышоў урэшце час і пан памёр. Астаўся толькі адзін жыд Аніська з дочкамі. Пачаў ён зямлю прадаваць. Народ на гэтае месца з'язджаўся з усіх бакоў. І на гэтай гары, дзе стаялі тры вежы, вырасла вёсачка Трывежа, а ўбок, дзе стаяў панскі замак і дзе стаяла адна вежа, разбудавалася вёсачка Важанка.

*Колас*

# Ахвярнасць і вынікі

Грамадскі фонд адбудовы сталіцы і краю аставіў сапраўдныя помнікі сваёй дзейнасці не толькі ў пабудове Варшавы, але кожнага ваяводства, павета. Напрыклад, у Сакольскім павеце сабрана ад 1946 года 3.101,1 тыс. зл. З гэтага ж фонду Сакольшчына атрымала толькі на інвестыцыі 2.367.800 зл. Між іншым на пабудову інтэрната дафінансавана 160 тыс. зл., на пабудову дома культуры ў Кузніцы Беластоцкай і іншыя 1.040.000 зл. Прытым трэба адзначыць, што 25% паводле статута адводзілася на адбудову Варшавы.

У Беластоцкім ваяводстве выдаткавана 10.603.716 зл. на інвестыцыі агульнаваяводскага характару. На пабудову тэлевізійнага цэнтра ў Беластоку прызначана 4.920.000 зл. «СФОСіК» закупіў 3 рэнтгенаўскія амбулансы на суму 3.147.834 зл. і іншыя. 23 мільёны зл. інвестыцыйнага фонду будзе выдаткавана ў 1966 г. на тое, каб закончыць пачатыя інвестыцыі.

Нельга прапусціць і таго, што ў гадах 1963 — 1965 выдаткавана 3 мільёны зл. на абсталяванне святліц. 149 тэлевізараў атрымалі святліцы на вёсках, а 71 — школьныя святліцы.

Надзеемся, што ахвярнасць у новапаўсталым Грамадскім фондзе пабудовы школ і інтэрнатаў прынясе не меншыя помнікі сваёй дзейнасці. (ак)




*У красавіку не лятуць пчолы — спадзявайся халадоў і слаты.*

*Красавік сухі — такі ж і чэрвень, але ліпень дажджлівы.*

*У красавіку грымот — цёплы будзе год.*

## КОНКУРС

*«КОЖНЫ СТВАРАЛЬНІКАМ РЭПЕРТУАРУ»*

*Прэзідыум ГП БГКТ пастанавіў аб'явіць конкурс на рэпертуарны матэрыял для мастацкай самадзейнасці. У конкурсе можа прыняць удзел кожны наш чытач. Умовы конкурсу ў наступным нумары.*

## ★ ДЗІВЫ НАШАГА ВЕКУ ★



### 20 000 градусаў гарачыні

Уявіце сабе штангу таўшчынёю ў 6 сантыметраў з цвёрдай сталі або чыгуна. Неабходна яе парэзаць на кускі. Як? Пілой не зможам, а ацытыленавым апаратам доўга і нявыгадна.

Праблему вырашыў калектыў Інстытута сваркі ў Глівіцах на Слёнску, які працаваў пад кіраўніцтвам інжынера Чэха. Прыдумалі яны спецыяльны апарат, пабудаваны па прынцыпу высокага згушчэння струі праменняў. У пункце перарэзу сталёвай штангі, гэты апарат вытварае тэмпературу да *20-ці тысяч градусаў* Цельсія. Сталь плавіцца бы масла. Маланкавы бліск і тоўстая штанга жалеза распадаецца на два кускі.

Апараты інжынера Чэха працуюць ужо на некалькіх заводах. Аднаго з іх бачым мы на здымку.

*Нейтрына*

Паважаныя чытачы! Калі не знойдзеце самі паяснення нейкай тэхнічнай або навуковай загадкі, пішыце, калі ласка, у «Ніву». «Нейтрына» Вам растлумачыць.

Мала, але цікава

### Нештодзённы рэкорд

Жанін Бублед, жыхарка Ліль у Францыі, пабіла нештодзённы рэкорд. На працягу 27 месяцаў нарадзіла яна шасцёра дзяцей — тры пары блізнят, за кожным разам радзіліся хлопчык і дзяўчынка. Шасцёрка дзяцей адчувае сябе добра.

*

Статыстыкі паказваюць, што блізняты родзяцца раз на сто родаў, трайняты — раз на 7 500 родаў, чацвярняты — раз на 680 000 родаў, а пяцярняты — раз на 42 мільёны родаў. (ліў)



• на шырокім свеце •

# НАШ СУСЕД ЗА ОДРАЙ

Германская Дэмакратычная Рэспубліка з'яўляецца прысутнай усюды — у Афрыцы, Азіі і Лацінскай Амерыцы. Прысутная яна, перад усім, у гаспадарчым жыцці, а таксама ў палітычным і ў культурным. Наш сусед за Одраю за апошнія гады навязаў ажыўлены гандаль з еўрапейскім капіталістычным рынкам, і вяжа ніці актыўнай гандлёвай сувязі з краінамі, так званага, трэцяга свету, г. зн. Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі.

ГДР-аўская цэнтраля заграмічнага гандлю «Інвест-Экспарт» даставіла туды да 1963 года больш чым 440 прамысловых аб'ектаў. ГДР дае «трэцяму свету» вырабы цяжкай прамысловасці, электратэхнічныя вырабы, абсталяванне дакладнай механікі і хімічныя прадукты. Цікавых вынікаў дабілася ГДР у, так званым, экспарце тэхнічнай думкі. Яе гандлёвыя цэнтралі падпісалі шматлікія дагаворы на продаж ліцэнцый і патэнтаў для Індыі, Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі, Бразіліі, Калумбіі і іншых краін «трэцяга свету». Напрыклад, Індыя закупіла ад ГДР ліцэнцыі на машынкі для пісання і электрычныя лічыльнікі, а таксама на прадукцыю некаторых гатункаў вайлоку. Аб'яднаная Арабская Рэспубліка вырабляе на падставе ліцэнцыі ГДР пэўныя гатункі енскага шкла і машынкі для пісання «Эрыка». Калумбія набыла ліцэнцыю на выраб легкавых машын тыпу «Вартбург», якія спачатку будуць выпускацца пры тэхнічнай дапамозе ГДР.



Немка і негрыцянка.

Словам, заграмічны гандаль ГДР з заморскімі краінамі складае амаль палову ўсяго яе гандлю з заходнімі краінамі

Істотныя дасягненні аднатоўвае ГДР у развіцці дыпламатычных адносін з краінамі Афрыкі, Азіі і Лацінскай Амерыкі. Не памагае тут шантаж Заходняй Нямеччыны, якая палохае разрывам суадносін з той краінаю, якая навяжа дыпламатычныя зносіны з ГДР. Апошнім часам утворана новыя дыпламатычныя пляцоўкі ГДР у Інданезіі, Камбоджы, Бірме і Танзаніі. У верасні мінулага года пастаноўлена абмяняцца генеральнымі консульствамі паміж ГДР і Сірыяй. У многіх краінах «трэцяга свету» дыпламатычная служба ГДР з'яўляецца большай чым дыпламатычная служба Заходняй Нямеччыны. Заходнеберлінская газета «Дэр Тагесшпігель» наракае, што — «у Гане, Гвінеі і Малі ГДР мае ўжо генеральныя консульствы, у якіх працуе больш персаналу чым у дыпламатычных прадстаўніцтвах Заходняй Нямеччыны ў гэтых краінах».

У Лацінскай Амерыцы найбольш ажыўленыя сувязі з ГДР утрымоўвае Бразілія. У вялікім горадзе Сау Паулу ГДР не раз арганізоўвала выстаўкі прысвечаныя дасягненням сваёй прамысловасці. З Бразіліі ГДР пакрывае 70 працэнтаў свайго запатрабавання на каву.

У размовах праведзеных афіцыяльнымі дэлегацыямі ГДР у краінах афра-азіяцкіх і ў апублікаваных з гэтай аказіі дакументах, пацвярджаецца поўная згоднасць поглядаў на шматлікія міжнародныя праблемы, у тым ліку таксама на германскае пытанне.

Кантакты ГДР з «трэцім светам» надта ажыўленыя, існуе нават супрацоўніцтва паміж прафсаюзнымі арганізацыямі і творчымі саюзамі. У Індыі створана апошнім часам «Таварыства Дружбы Індыя — ГДР». У Берліне дзейнічае «Германска-Афрыканскае Таварыства», а таксама «Камітэт ГДР — Цэйлан». Гэтымі арганізацыямі апякуецца «Ліга Дружбы паміж Народамі» ў ГДР. (а-ся)



На здымку: прэзідэнт Юліус Нерэрэ наведаў вялікі шпіталь, падарунак ураду ГДР для Танзаніі. У гэтым шпіталі працуе шмат нямецкіх лекараў.

• аляксей карпюк •

## ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Бацька пад лесам прыворваў грэчку. Стары яшчэ з першай сусветнай вайны застаўся трохі глухаваты, а лес ад ветру гудзеў, страляніны бацька не чуў. Араць ён збіраўся заўтра, сёння яму проста захацелася расказаць пра наш поезд.

Узарвалі мы таварны з мукой. Катастрофа наступіла ў невялічкім выкапе. Нагрувашчаныя адзін на адзін вагоны закаркавалі выкап грунтоўна. Немцы ніяк не маглі падцягнуць кранаў да вялізнай гурбы з пагібаных сталёвых фермаў і пакрышаных дошак, даводзіцца цяпер расчышчаць пуць ледзь не ўручную. Пакуль падняць і адвалачы вагоны, трэба раней іх разлададаваць, муку адправіць на бліжэйшую станцыю. Колькі дзядзька можа пакласці на калёсы пры нашых пясчаных дарогах? Пудоў з трыццаць. У эшалоне іх — аж сто дваццаць тысяч! І спецыяльная рота сёння раніцой накіравалася ў навакольныя вёскі мабілізаваць усіх коней і мужчын. Цэлы дзень у вялізным мучным воблаку завіхаліся тысячы конскіх і людскіх зданяў. Сяляне працавалі з уздымам, надта ж было ім прыемна ўзірацца на ўсё гэта! З раніцы на месца катастрофы з'явілася гестапа, загадала работу спыніць. Мужыкоў сагналі да будкі. Немцы паказалі кабель і кіёчак з выразаным надпісам, які зрабіў Сашка яшчэ ў Зубкоўскіх кустах.

— Хто ведае што-небудзь пра гэта? — цераз перакладчыка звярнуўся начальнік гестапа.

Дзядзькі заківалі галовамі, заўздыхалі.

210

— Ка-лі-ноў-скі... — прачыталі па складах надпіс на кіёчку смялейшыя.

Паціскалі плячыма, маўляў, — якіх толькі цудосаў цяпер не бывае!

Гестапаўцы падабралі на раллі Кардашову пілотку. Начальнік паказаў яе:

— Чыя можа быць?

Людзі насцярожыліся. Пілоткі насілі многія з іх, бо цяпер, калі трэба на галаву шапку, то не купіш у магазіне, адзявалі, што траплялася пад рукі. Аднак на гэтай — чырвоная зорка. У іхніх у тым самым месцы — толькі дзірачкі і менш выгараныя плямкі.

— Савецкага салдата! — азвалася некалькі галасоў.

Выходзіла: лавіць іх, вы ж такія дужыя, неперажоможныя, пры чым тут мы, сяляне?!. Ага, пры чым! Калі поезд нават узарвалі салдаты, то чаму зрабілі дакладна там, дзе не было варты?!.

Гледзячы на гэтую камедыю, начальнік гестапа хацеў сагнаць злосць і лупцаваць бізуном бліжэйшых мужыкоў па тварах, ды падумаў, што так яшчэ болей пакажа сваю бездапаможнасць. Вёў камедыю далей.

— Хто-небудзь ноччу бачыў вайсковых ля вёскі?
— Сабакі брахалі, а на каго? Пайдзі, даведайся!..
— Цёмна!
— Мо хто бачыў парашут?

Зноў начальніку захацелася выліць злосць, і зноў яго бізун толькі ляпнуў па халяве.

— Дзесяць пудоў солі і тысячу марак таму, хто дапаможа злавіць віноўнага!

На гэтым допыт скончыўся. Гестапаўцы селі ў машыны, паехалі.

Другім рэйсам дзядзькі папрыязджалі ўжо з самагонкай. Салдаты адкрылі гандаль. З дзесяці мяшкоў, якія клалі дзядзьку на воз, да станцыі даязджала чатыры. Сувязныя потым далажылі: шэсцьдзесят тысяч пудоў ладунку камісія спісала на распыл, а гэтая мука фактычна асела па вёсках.

211

Пад стрэхамі хат запанавала ўзбуджанае вяселле. Нават бацька ўмудрыўся прыперці дамоў цэлы воз пузатых джутавых мяшкоў, на якіх у авале надрукаваны чорным тушам стандартная свастыка з арлом. І хоць у гэты дзень ён так стаміўся, што і ног не здолеў цягаць, не абабіўшы з вопраткі мукі, з заложанымі белым пылам вушамі, запрог каня ў плуг, павесіў на сасне паперку, паехаў араць. Яго распіраў гонар за сына.

Арэ стары, выглядае, а я ўсё не іду. І раптам на краі хвойніка бачыць немцаў. Бацька насцярожваецца. Немцы ўжо махаюць рукамі. Ён стрымлівае каня, думае, — партызаны. Набліжаецца і бачыць дваіх старых салдат са страшаўскага бункера. Абодва захуталі шыі стракатымі шалікамі, труць рукі не то ад холаду, не то ад хвалявання, чакаюць.

— Запрагай у воз каня, пад'язджай сюды! — загадвае па-польску адзін.

Бацьку падганяць не трэба. Яго агортвае інстынктыўная трывога — у гэты час, пакуль ён так радаваўся, штосьці трагічнае, непапраўнае здарылася! Трэба хутчэй даведацца пра ўсё, ратаваць, папярэдзіць! Праз тры мінуты бацька быў гатовы. Салдаты бяруць у яго лейцы, узлазяць на фуру:

— Не адставай!

Ужо вечарэе. Немцы бяспечна, нібы да сябе на падворак, напраўляюцца ў Ліпнікі. «Яны ж павінны сёння пайсці ў Каралеўскі!» — цягнецца за возам і пацяшае сябе стары, хоць толькі што мяне выглядаў. З дарожкі немцы кіруюць туды, дзе партызанскі лагер. Не слухаюцца ногі, ён хапаецца за ручку воза.

Так яны і дабіраюцца да месца разгрому лагера.

Яшчэ з вогнішча сіратліва ўзнімаецца струменьчык дыму. Усюды паразліваная страва, валяюцца вінтоўкі, аўтаматы, дзесяцізарадкі, вопратка, рэчавыя мяшкі, анучы, чырвоная шапка дзяжурнага па станцыі. Сярод гэтага дабра лазіць салдат. Падыходзіць да бітона, калыша яго і хваліцца тым, хто прыехаў:

212

 




## Хвост у торбе

Быў у аднаго гаспадара белы асёл, з доўгім пушыстым хвастом і густою грывай. «Але што зробіш? Трэба яго прадаваць!» — горка ўздыхнуў гаспадар. І ноччу перад кірмашом, пастанавіў асла выкупаць. Асабліва старанна ён вымыў і нават вычасаў густым грэбенем яго пышны хвост. Такі хвост адразу зверне ўвагу купцоў.

Але, на бяду, ноччу прайшоў добры дождж, і дарогу на кірмаш развязло.

Гаспадар засмуціўся: «Калі я павяду асла на кірмаш, то яго вымыты і вычасаны хвост увесь будзе ў балоце і адразу страціць сваю прыгажосць. А чакаць да новага кірмаша я не магу. У мяне ж ні граша ў кішэні. Што ж мне рабіць?»

Усю ноч не спаў гаспадар, а на світанні пайшоў да мудраца.

— Чаго ты хочаш? — спытаў той, прачнуўшыся ад грукату ў браму.

— Прашу вас, парайце, як мне давесці белага асла на кірмаш не забрудзіўшы яму хваста? Дарогу пасля дажджу моцна развязло...

— Няўжо ж табе нават на гэта розуму не хапае? — адазваўся сонны мудрэц і дадаў: — Адрэж хвост, схавай у торбу ды й паганяй на кірмаш. І я ўпэўнены — на хвост твайго асла не ўпадзе ні кроплі балота!

Падзякаваўшы за параду, вясёлы гаспадар пабег дамоў, лаючы сябе за сваю нездагадлівасць.

Вядома, ён зрабіў усё так, як параіў мудрэц, і рушыў на кірмаш.

Там яго адразу абступілі купцы. Кожны аглядаў асла, мацаў яму ногі, вымерваў капыты і навальваўся на яго ўсёй сваёй вагой, выпрабоўваючы моц хрыбта. Асёл прайшоў усе выпрабаванні.

І тады адзін купец сказаў:

— Добры асёл, ды шкада, што хвост яму адрубалі!

Гаспадар усміхнуўся і спакойна адказаў:

— А ты таргуйся, чалавеча, і за хвост будзь спакойны. Хвост у торбе!

### ІСТОТНАЕ ПЫТАННЕ

**Настаўнік скончыў тлумачэнне новага ўрока.**

**— Ці будуць у каго пытанні? — запытаў ён.**

**На задняй парце адразу ж паднялася рука. Вучань, што ўвесь час гуляў з сябрам у «дурня», задаў пытанне:**

**— Колькі мінут засталося да званка?**

### НЕ ЧУТНА

Загадчык аддзелам уваходзіць у кантору і са злосцю звяртаецца да машыністкі:

— Кожны раз, калі я ўваходжу, вы не працуеце. У чым справа?

— А ў вас чаравікі на каўчуковай падэшве: не чутна.



— На здароўе!..

### ПАШКАДАВАЎ

Бюракрат, да якога ўжо каторы раз прыйшла на прыём старэнькая бабуля, паспачуваў:

— Няўжо ў вас няма каму займацца гэтай справай? Гэта ж толькі падумаць такую старую прымушаюць столькі хадзіць...

## ТРЫ ТРУНЫ

**Прыгняла майго суседа скруха:**
**Разлюбіла жонка-прыгажуха.**
**З гора ён зрабіў сабе труну.**
**Выцягнуўся ў той труне ў струну.**
**Сумна, зімна на пустым гарышчы,**
**Дождж шуміць, асенні вецер свішча.**
**Адпраўляцца непагаддзю страх**
**Як не хочацца ў апошні шлях!**
**Лепей пасядзець з сябрамі. Можа,**
**Сум прагнаць бяседа дапаможа?**
**І пайшоў, прадаў труну сусед,**
**Пасядзеў з кампаніяй як след.**
**Скора ён паспеў пра ўсё забыцца:**
**Спадабалася яму ўдавіца.**
**Ды бяда — бярэ ўдаву другі.**
**Зноў суседу цяжка. Ад тугі**
**Жыць яму не хочацца, і зноўку**
**Ён зрабіў сабе труну-дамоўку.**
**На гарышчы, як калісь, ляжыць,**
**Галавой ён хоча налажыць.**
**А духмяны бэз цвіце ў садочку,**
**Салавейка цёхкае ўсю ночку.**
**Толькі што суседу салавей:**
**Ён ляжыць пануры, як сугней.**
**Ён рашыў памерці канчаткова,**
**Ён цяпер сваё стрымае слова.**
**Раптам чуе — нехта ў сад залез**
**Ды ламае ля паркана бэз.**
**«Гэта, — крыкнуў ён, — жаніх удоўкі**
**Да вяселля бэзанарыхтоўкі**
**Робіць, чорт. Пайду яго турну!»**
**Так другую ўжо загнаў труну...**
**Ён, пакуль смяротны час праб'е,**
**Мабыць, трэцюю яшчэ прап'е.**

**АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ**

## Невінаваты

— Не браў я хабару ніколі! —
У абурэнні крыкнуў хвалі.
— Ну, хіба толькі ў тым выпадку,
Калі мне ўжо ў кішэнь паклалі.

**М. Калыска**

# УСЯЧЫНА



Усё людское нам не чужое

*Кур'ёзы*

## Патрыёт

Як паведамляе міланскі «Темпо», вязень Умберта Вале, які ўцёк з турмы ў наручніках, паслаў іх па пошце ў паліцыю, так тлумачачы свой паступак:

«Я не хачу зноў наносіць матэрыяльную страту дзяржаве».






Загадчык сталоўкі: — Чый волас?




**Мядзведзь, хоць і спіць беспрабудна ўсю зіму, вясны яшчэ ніколі не праспаў.**

### ЗМАГАР ЗА ІСЦІНУ

Заяц горача даводзіў усім у лесе:

— Кожны звер перад ісцінай павінен на задніх лапах стаяць, таму што ісціна аб'ектыўна і бессмяротна.

Дачуўся пра гэта Воўк, сустрэў Зайца і пытае:

— Ці праўда, што ты казаў такія словы: «Перад ісцінай кожны звер павінен стаяць на задніх лапах? Як гэта зразумець, растлумач мне».

— А вось так, як я перад вамі, — адказаў Заяц і стаў на заднія лапы.

**А. Галчанаў**

### НАШЫ ДЗЕЦІ

Чатырохгадовы Віця, прачнуўшыся раніцай, паведаміў маме, што ў яго выхавацельніцы сёння дзень нараджэння.

— Ах, ах, — замітусілася мама. — Ці паспеем мы купіць кветкі? Што ж ты мне ўчора не сказаў пра гэта?

— А ўчора ў яе не было дня нараджэння, — растлумачыў Віця.

### КРЫЎДА ГУЛЬТАЯ

— Ну і жонка, — нездаволена бурчаў сабе пад нос гультай. — Ніколі толкам нічога не зробіць. Ежу паставіла, а лыжку падаць забылася — хутчэй на работу пабегла. Нічога не зробіш — давядзецца самому ўставаць.

### ІЛГУН

— Маці гаворыць да сваёй дачкі:

— Ці ведаеш ты, што твой нарачоны сядзеў пяць разоў за тое, што біў сваю першую жонку?

— Пяць разоў? Які ж ён ілгун! А мне казаў, што толькі чатыры, — адказала дачка.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе *Міры Патэльскай* са Страшава, Беластоцкага павета, змяшчаем польскую песню п. з.

## Ballada cygańska



I

Ruszę drogą w las,
skradnę złoto gwiazd,
Nawet księżyc sam
tobie, Kali, dam!

Widzę w oddali
z gwiazd sznur korali
i tobie, Kali,
złoty księżyc dam.
Gdzieżeś, powiedz, gdzie,
czemu zwodzisz mnie?

Wołam daremnie,
jest coraz ciemniej,
zadrwiła ze mnie
ta noc zła.

Ta noc jak złodziej
skradła mi w drodze
gwiazd i księżyca
złoty skarb wieść?

Jest za wiele dróg,
bym ją znaleźć mógł,
powędruję w świat,
będę gwiazdy kradł.

II.

Wzięła noc sto gwiazd,
poszła noc za las.
Gdzie swą złotą twarz
ukrył księżyc nasz?

Widzę w oddali
z gwiazd sznur korali
i tobie, Kali,
złoty księżyc dam.
Gdzieżeś, powiedz, gdzie
czemu zwodzisz mnie

Kto mi odszuka
księżyca dukat,
kto złote gwiazdy
znajdzie gdzieś?

Już mi zaginął
ślad za dziewczyną,
kto mi przyniesie
o niej wieść?

Jest za wiele dróg,
bym ją znaleźć mógł,
powędruję w świat,
będę gwiazdy kradł.



**— Чаго плачаш, згубіў маму? Трэба моцна трымацца мамінай спадніцы!**

**— Калі не магу дастаць!**



*Клопаты разрастаюцца, як бактэрыі, і таму трэба заўсёды весці з імі бесперапынную барацьбу.*

*

*Можна сплыціць кожную глыбокую праблему, але і ў плыткай вадзе можна ўтапіцца.*

*

*У добрым настроі нават імгла яснее незвычайнай радасцю.*

*

*Часам, хоць і не хочаш, усё памыслова складаецца, а як хочаш — усё выходзіць наадварот.*

*

*У глухім куце, дзе свет дошкамі забіты, таксама часам можна ўбачыць кавалак прыгожага неба.*

 